# Ніва

ISSN 0546—1960
ІНДЭКС 36671

БЕЛАРУСКІ ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНЫ ТЫДНЁВІК

№ 23 (1725) ГОД XXXIV БЕЛАСТОК 4 ЧЭРВЕНЯ 1989 г. ЦАНА 40 зл.



**Канцэрт вяла Тамара Бурачэўская, дырэктар Гарадоцкага дома культуры.**

## БРЫЛЬЯНТ У КАРОНЕ

„Ой, ведаеце, я так цешуся вашай узнагародай, так цешуся. Памятаеце, у мінульмі годзе на конкурсе „Беларуская песня ’88“ я атрымала ўзнагароду „Нівы“ — насценны гадзіннік. Я яго павесіла і ўсім паказваю, і хвалюся, што во, першую ўзнагароду на конкурсе здабыла. Яшчэ ніколі ніхто мне такога цуда не падарыў!“ — Марыя Міруць была першай асобай, якая сустрэла нас у Гарадоцкім доме культуры імя Кастуся Каліноўскага 13 мая бягучага года. Вядома, памятала я дасканалы, чысты голас Марыі Міруць і яе выступленне на мінулагоднім конкурсе, якое журы ацаніла найвышэй. (Прызнаюся, не памятала таго насценнага гадзінніка...). Аднак жа сёння, у сувязі з жалобай па нядаўна памершым мужу, Марыя Міруць была апранута не ў народны касцюм, а проста ў чорную сукенку і не спявала на ўрачыстым канцэрце. Памагала ўсё ж сваім сяброўкам з калектыву як магла — гасцей жа назбіралася ў Доме культуры шмат.

А нагода дзеля гэтага была, ды яшчэ якая. Гарадоцкі хор, ці проста, як яго ўсюды называюць, „Гарадок“ — святкаваў сваё 35-годдзе.

Тады, у 1954 годзе, пачыналі ўпершыню спяваючыя да сёння Ніна Мушынская, Ніна Цыванюк, Вольга Мядзведзева, Ірына Паўлючук, Надзея Парэмбская. На працягу 35 гадоў існавання праз хор прайшло 150 чалавек, але цвёрдае ядро засталося. Не сакрэтам было, што ўжо тады, калі пачыналі, Ніне Мушынскай споўнілася 42 гады; была яна і найбольш сталай жанчынай і найлепшым арганізатарам. Працавала бібліятэкаркай, а грамадскім чынам — была старшынёю Лігі жанчын.

Першае выступленне далі ў Гарадку 8 сакавіка 1954 года. А калі праз год першы раз давялося выступіць на сапраўднай сцэне — у тэатры імя Аляксандра Вянгеркі ў Беластоку, і нехта з кіраўнікоў тадышняй праграмы запытаў, чаму ў хоры няма мужчын і ці спяваюць



яны з аркестрам, Ніна Мушынская ганарыста адказала: „Нам самэ бузе выстарчаё!“

Але недзе гадоў праз дзесяць прыйшоў у калектыў Сцяпан Копа. Прыйшоў як акампаніятар і як музычны кіраўнік. Усё ж нехта такі быў калектыву патрэбны. І сталі жанчыны спяваць яшчэ больш зладжана. На працягу 23 гадоў Сцяпан Копа быў звязаны з хорам і працуе з ім надалей, хаця даўнавата ўжо перабраўся ў Беласток. Даязджае, нягледзячы на віхуру ці галалёдзіцу. Рабіў гэта на працягу многіх год у грамадскім парадку, не беручы за сваю працу ніякіх грошай. І толькі ў апошнім часе Сцяпан Копа атрымаў пасаду штатнага музычнага інструктара пры Ваяводскім доме культуры ў Беластоку. Вядзе калектывы ў Гарадку і Беластоку, пры Гарадскім аддзеле БГКТ, а да таго яшчэ — музычны гурток.

Шмат пазней гарадоцкія жанчыны прыдбалі сабе яшчэ саліста Юрку Налівайку. Без гэтых двух мужчын цяжка было б сёння ўявіць сабе гэты калектыў.

Адкуль бралі свой першы рэпертуар? — Ад маці і бабуляў, кажа Ніна Мушынская, а таксама „з точак“ — гэтак было найпрасцей.

І таму сёння, праз 35 год ад пачаткаў, успамінаюць яны свае першыя песні, якія чулі ў „точцы“ ў пасляваенныя гады: „На опушке леса“ (пра пахаванага на ўскраіне лесу партызана), „Солнце скрылось за горою...“ (затуманились речные перекаты, а дорогою степною шли с войны домой советские солдаты...), і песні „з гадоў маладосці Ніны Мушынскай“: „Ой, не кукуй, зязюленька“, „Баба Ксютка“ ў адаптацыі пані Ніны ды іншыя, больш і менш вядомыя беларускія, рускія, польскія і ўкраінскія песні.

Нягледзячы на свой узрост (у некаторых ужо ўнукі працуюць дактарамі), калектыў адчувае сябе молада і ўпэўнена на сцэне і захаваў свежыя галасы. Алесь Барскі ў сваім выступленні сказаў, што: „у 35 год канчаецца маладосць і пачынаецца сталасць“. Шчаслівая сталасць! Члены калектыву могуць ганарыцца тым, што выступалі на

(Працяг на стар. 5)

---

**У сённяшніх выбарах прымаюць удзел два кандыдаты, выстаўленыя Беларускім грамадска-культурным таварыствам. Прыпамінаем іх прозвішчы:**

## Сакрат Яновіч

**кандыдат у Сенат з Беластоцкага ваяводства,**

## Яўген Мірановіч

**кандыдат у Сейм з Выбарчай акругі № 10 у Бельску-Падляшскім, мандат № 38.**

**ГАЛАСУЙМА НА ІХ!**

---

## У ЕДНАСЦІ




Пачатак гэтага года адзначыўся нетыповымі кліматычнымі ўмовамі. Бяснежная зіма спрыяльна ўплыла на хуткі прыход вясны.

У грамадскае жыццё нашай краіны таксама хлынуў не менш нетыповы клімат. У першыню ў такіх маштабах разгарнулася перадвыбарчая кампанія ў краіне. Усе, хто зацікаўлены выбарам сваіх прадстаўнікоў у Сенат і Сейм, пачалі барацьбу за галасы. У тым ліку і для нашых беларускіх кандыдатаў. Створаны дзесяткі праграм і перадвыбарчых дэкларацый, распаўсюджваюцца яны ў сродках масавай інфармацыі, а таксама на афішах і лістоўках.

Нават і мы, беларусы, дажыліся нетыповага дагэтуль зацікаўлення нашым жыццём, праблемамі нашай культуры, школьніцтва, рэлігіі, захавання нашай тоеснасці, без якой не можа быць паўнацэннага чалавека. Усё гэта выклікае пачуцці маральнага задавальнення, хаця і здагадваемся, што нікому не абыякавыя дзве сотні тысяч беларускіх галасоў.

Шкада толькі, што амаль не гаворыцца пра эканамічную адсталасць, пра руіну нашых вё-

(Працяг на стар. 7)




(Працяг са стар. 1)

сак, з якіх масава ўцякала маладое пакаленне ад вечных „гумякаў“, „фуфаек“, у пошуках лепшага жыцця.

Цяпер сярэдняе і маладое пакаленне пражывае ў гарадах, часта хаваючыся пад чужой вопраткай, каб толькі ніхто не дадумаўся, што яны праваслаўныя і беларусы. Ці можна зайздросціць такога лёсу, калі чалавек жыве, аглядаючыся навокал з пачуццём віны, што адрокся ад чагосьці блізкага і роднага. Трэба давесці да свядомасці польскага грамадства, што мы не падкідышы з часоў сталінскай эпохі, а жывем на Беласточчыне са сваёй мовай, культурай і рэлігіяй больш чым тысячу гадоў.

Сакрат Яновіч у сваіх выбарчых выказваннях сцвярджае, што спецыфічныя беларускія культурныя і рэлігійныя патрэбы не з'яўляюцца чымсьці асаблівым. Змяшчаюцца яны проста ў рамках нармальнасці, аб якой мы марым і да якой імкнемся як грамадства. Не можа быць добра, калі мова беларусаў будзе спіхвацца да ролі хатняй, па-за грамадскае жыццё, калі беларуская культура на Беласточчыне, пакінутая свайму лёсу, будзе надалей курчыцца пад асіміляцыйным націскам, стыхійным і не толькі. Каму будзе з гэтага карысць? Няўжо ж мела б гэта памагчы ў перадольванні грамадска-гаспадарчага крызісу?

Толькі „вольныя з вольнымі, роўныя з роўнымі!“ — гаворыць Сакрат Яновіч.

Гэта паможа збавіцца ад усякіх фобіяў і напаўасіміляваным беларусам, калі ў будучым, а якраз цяпер адкрываюцца такія шансы, стане нармальнай з'явай у нашым сужыцці з польскай грамадскасцю ўзаемнае разуменне, давер і ўзаемная пашана ва ўсіх аспектах, у тым ліку і да нашай мовы, культуры і рэлігіі. Якраз таму патрэбны нашы прадстаўнікі ў Сейме і ў Сенаце, якія пазбыліся ўжо страху ці сораму і аб нашых справах скажуць поўным голасам. Для нашага дабра, для нармальнай будучыні нашых дзяцей. А хто лепш ведае пра лёс нашых бацькоў і дзядоў, якія жывуць у адсталых вёсках? Хто паклапоціцца пра варункі жыцця і працы на вёсцы?

Хтосьці можа сказаць: чаго хочуць беларусы, калі аб лёсе „ўсходняй сцяны“ думаюць спецыялісты-эканамісты, каб падняць гэту тэрыторыю з галечы, пабудаваць дарогі, школы, дзіцячыя сады, новыя крамы, пункты скупкі, водаправоды, газаправоды, словам усё, што неабходнае для годнага цывілізаванага жыцця? Так менавіта прапануе дацэнт Ч. Наневіч („Кур'ер Падляшскі“, № 20 ад 27-29.I.1989 г.). Радасна адказваем — мы „за“! Але ж не пра жыхароў нашых вёсак гэтыя разважанні. Прапануецца перасяліць сюды людзей з іншых рэгіёнаў краіны. Куды ж тады падзець нашых беларусаў? Мо ў дамы старцаў, або можа паспеюць яны памерці?

Супраць такіх закусаў выступае наш кандыдат у паслы Яўген Мірановіч:

— Інвестыцыі на Беласточчыне патрэбны і неабходны, — гаворыць ён, — але нельга выліваць разам з вадой дзіцяці. Мы не можам згадзіцца з тым, каб уся ўсходняя Беласточчына раптам і прытым радыкальна змяніла свой нацыянальна-рэлігійны характар. Для мяне і Сакрата Яновіча, як беларускіх кандыдатаў, гэта адна з важнейшых праблем.

Нам, выбаршчыкам, астаецца толькі верыць, што шансы, якія адкрыліся ўпершыню перад намі, беларусамі, не будуць намі ж самімі змарнаваны, таму што ў еднасці сіла.

І мы напэўна аддамо свой голас на нашых кандыдатаў.

**Віктар Стахвюк**

## ЗАМАЛЁЎКІ З ЖЫЦЦЯ

### КАСЯ

Кася нарадзілася ў сялянскай сям'і. Вучылася сярэдне. Больш было троек, чым чацвёрак. Закончыла пачатковую школу і пайшла вучыцца ў горад, у сярэднюю. Першы клас скончыла, а ў другім ёй не ішла навука, бо закахалася ў Ваню. Ваня жыў па-суседску і быў на дзесяць год старэйшы. Кася кінула школу і пачала хадзіць за Ванем. Бацькі Вані саромелі яе і яе маці сварылася, але дзяўчыне было ўсё роўна. Праз год адбылося вяселле. Кася была задаволеная.

Жылі добра. Сваркі ўзнікалі час ад часу з-за водкі. Ваня быў майстар на ўсе рукі. Ён умеў направіць і трактар, і самаход. Людзі часта яго прасілі, каб дапамог, а пасля работы — вядома, выпіўка.

Аднойчы здарылася бяда. Ваня памёр. Кася не знаходзіла сабе месца.

Сястра Вані забрала яе ў горад. Кася пачала працаваць. Пазнаёмілася з бельгійцамі і выехала ў Бельгію. Там выйшла замуж за прыгожага кавалера. Жывуць добра і згодна. У іх два самаходы, віла. Толькі, вось, бяда, няма дзяцей.

### ЗЛОДЗЕЙ ТОЛЬКІ ЧАКАЕ

У адзін з беластоцкіх кіёскаў „Рух“ прывезлі дэфіцытны тавар. Людзей назбягалася процьма. Занялі чаргу, а пасля абляпілі кіёск і пачалі пільна ўглядацца ў вокны, каб даведацца, што прывезлі.

Сярод тых людзей была старэйшая жанчына, якая трымала сярэдняй велічыні кошык, у якім ляжалі хлеб, цукар, мука, а зверху кашалёк з грашыма. Пачала яна адпіхваць людзей і прыглядацца ў вакно кіёска, а свой кошык трымала, выцягнуўшы руку далёка ад сябе. На гэта толькі чакаў злодзей. Хапіў кашалёк і ў ногі.

— О, кашалёк украў! — крыкнуў хлопчык. — Лавіце яго!

Злодзей не чакаў. Ён хутка „згінуў“ за паваротам вуліцы.

Жанчына глянула ў свой кошык і закрычала: „Божа мой! За што я пражыву?! То ж там цэлая мая пенсія!“

— Ідзіце на міліцыю, — нехта параіў.

— Нікуды я не пайду, — заплакала жанчына. — Дзе яны яго знойдуць. Няхай яму Бог адплаціць.

— Вы самі сабе вінаваты, — загаманілі людзі. — Хто ж гэта бачыў так грошы наверху трымаць. Злодзей толькі гэтага чакае, злодзей ніколі не спіць.

**Аўрора**

падзеравянелых нагах сеў, бы мыла з'еўшы, за столік з кнігай водгукаў і ўпісаў пратэст: **мяне тут абразілі як беларуса і як госця!** І то ў становішчы публічна дыскутаванай аганальнасці нацыянальнай свядомасці народа, генацыду беларускай культурнасці, шчасліва ўцалелай толькі ў інтэлігенцкай дыяспоры.

Нічога падобнага не здарылася ў бярозаўскай шкляной гуце „Нёман“. Рабочыя хлеб ядуць з мазаля, усе яны да апошняга нацыяналісты свайго лёсу, так бы мовіць. Ім і ў галаву не прыходзіць ганьбіць роднае. І ніхто не адважваецца на тое перад імі: няхай спрабаваў бы! Не яны начаўплі безгалоўя ў культуры Беларусі. З цудамі гутніцкага майстэрства прыгожа пазнаёміў нас Васіль Самахвалаў, мастак-праектоўшчык і, як здагадваюся, захавальнік гэтага фабрычнага музеоніка (фірме ўжо за сто гадоў). Вырабы набылі еўрапейскую вядомасць; экспартуюць нават у Аўстралію ды ў Злучаныя Штаты, Канаду.

Палітыка на вышыньках раёнаў: канец Лідчыны і пачатак Навагрудскага мы пазналі па тым, што раптам закрасаваліся перад намі менавіта беларускія ўказальнікі дарог і дошкі з назвамі мясцовасцей. Усё роўна, што з аднае заграніцы ў другую трапілі, пажартавалі Вальдэмар Смашч з Ясем Леанчуком, маладняцкія і зіркастыя палякі; першы з іх — узыходзячая зорка літаратурнай крытыкі, а Леанчук — порсткі перакладчык беларускага мастацкага слова і ўсепольскай папулярнасці паэт.



**Замак у Навагрудку. Малюнак У. Петрука. Паводле рэканструкцыі Я. Куліка.**

Навагрудку не пашанцавала на бурлівы росквіт ды парадак. У яго ёсць, аднак жа, не абыякі патэнцыял будучыні — змог бы няблага ўбудавацца ад пастаўленай на належны ўзровень турыстыкі. Адна Замкавая гара чаго вартая, калі б пераўтварыць яе ў археалагічны парк, у нешта на беларускі Вавэль. Баюся пакрыўдзіць інтэлігентнасць чытача пералічваннем звязаных з ёю гістарычных падзей, якія шмат у чым прадвырашылі мінулае ўсходняй Еўропы... Фарны касцёл: у ім браў шлюб Ягайла з Зофкай; праз чатырыста гадоў — ахрысцілі нованароджанага Міцкевічыка. Каля рынку — касцёл св. Міхала, выратаваны ад прафанацыі ўвесь у аднаўленчых рыштаваннях; побач — паказвае цярплівы наш гід Таня Царук, — адкапаныя фундаменты і скляпенні колішняй дамініканскай школы, у якую бегалі будучыя віленскія рамантыкі (кажуць, рэстаўратары наткнуліся на каваны куфар, хто ведае, ці не з сенсацыйнымі для навукі дакументамі). І на курган Адама Міцкевіча насіла нас, і на будынак даваеннай беларускай гімназіі глядзелі, і ў руінах могілак паблукалі, у тым як бы запаведніку памяці і бяспамяцці, чалавечнасці і варварства (татальна паразбіваныя крыжы).

На ўсходах міцкевічаўскага дома-музея прывіталі ўсіх хлебам-соллю старыя палячкі з малымі ўнучкамі. Перамоўка з дзятвою не клеілася, і тады я ўспомніў дарунак навагрудскім каталікам ад кардынала Юзафа Глемпа, прымаса Польшчы: біблійку Святога Пісання на... рускай мове.

Абедалі ў рэстаранчыку гатэля. Калі я ўваходзіў туды, схапіла мяне ў абдымкі стройная дама; у наступны міг пазнаў у ёй нашу Валю Ласкевіч. Відаць, выгляд у мяне быў ашаломлены казла, бо за сталамі хапаліся за жываты апазнаныя працаўнікі беластоцкага „Дома кніжкі“; экскурсійным аўтобусам гналіся яны ў Мінск і далей. Усё-такі малы гэты наш свет, а Беларусь, то і зусім.

(Працяг будзе)

**Сакрат Яновіч**

Зорка
СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ



А вясны выглядаць ніхто не збіраецца... Дзеці з бельскай „тройкі".

# ВЯЛІКІ ТЭАТР МАЛЫХ АКЦЁРАЎ

Ах, шкада, што вас там не было! Маю на думцы ўсіх, каго 6 мая не было на аглядзе школьных тэатраў у Бельску. Пабачылі б вы, што, апрача тэлебачання і гульні ў мяч, ёсць у жыцці яшчэ адзін надта цікавы занятак, а называецца ён: школьны тэатр. Я там быў і як жа шкадаваў, што ўжо даўно для мяне мінулі тыя часы, калі я мог выступаць у школьнай п'есе або сцэнцы, падрыхтаванай супольна з сябрамі і настаўніцай беларускай мовы. Што як што, але спяшацца ў дарослае жыццё я б вам не раіў. Аказваецца, дарасламу шмат чаго ўжо нельга зрабіць.

У Бельскім доме культуры спаткаліся вучні-акцёры з сямі пачатковых школ Беласточчыны. Прыехалі са сваімі настаўнікамі і з пастаноўкай п'ес, да якіх, я не сумняваюся, рыхтаваліся надзвычай старанна і сур'ёзна.

На пачатку выступілі дзеці з бельскай „тройкі". І адразу прыемная неспадзяванка: вучні трэціх класаў паказалі лялечную п'есу „Бунт цацак". Пра тое, як аднойчы цацкі не змаглі ўжо сцярпець брыдкіх адносін да сябе з боку аднаго такога Валодзі і вырашылі яго правучыць. Ну і правучылі!

Старэйшыя класы з Ласінкі паказалі сцэнку са школьнага жыцця, калі аднойчы ў школе знік класны журнал. Чаму такія рэчы, на жаль, у школе яшчэ здараюцца? Вучні з Ласінкі закранулі ў сваёй пастаноўцы сур'ёзную тэму і паказалі, як трэба вырашаць такія вось непрыемныя справы, калі ўжо яны прыдарацца.

Орля прывезла п'есу пра адну такую Люцынку, якой ужо вельмі хацелася выйсці замуж, і то не за абы каго, а за самога інжынера. Падумаеш, што ж такое інжынер?! Нічога дзіўнага, што на зале здорава рагаталі, наглядаючы на сцэне ўсе тыя нягоды нешчаслівай Люцынкі і яе бойкай мамы. Тым больш, што арлянскія вучні выдатна імітавалі дарослых, якія ў справе замужжа, пагаджаюся тут абсалютна, зусім ужо збіваюцца з панталыку.

Вучні з Дашоў у сваёй сцэнцы паказалі, як можна расквітацца з тымі бамбізамі і гультаямі, што самі не хочуць вучыцца ды іншых ад навукі адцягваюць. І мне ні трохі не было шкада таго Лёню, які на пачатку ставіўся пеўнем, але потым абмяк і атрымаў строгі ўрок добрага выхавання ад сваіх аднакласнікаў. Так яму і трэба, задаваку і невуку.



А наша Люцынка пойдзе за інжынера! На сцэне — вучні з Орлі.

Няўрымслівыя трэцякласнікі з Бельска выступілі яшчэ раз і паказалі сцэнку пра гномікаў паводле ўсім вядомай кніжкі Марыі Канапніцкай. Ах, што за відовішча яны паказалі! Надзвычайнае, праўда? Надзвычайным быў падземельны свет каралеўства гномікаў, надзвычайныя былі каляровыя зыркія вопраткі гномікаў і надзвычайныя былі тыя малышы-гномікі. Вялікі тэатр малых (ростам, але не талентам) акцёраў. Ці ж можна забыць таго караля, які прымёрз да свайго трона, або таго непараўнанага Кашалка-Апалка, летапісца падземельнага каралеўства, або тых усіх гномікаў, якія танцавалі і спявалі, але выглядваць вясны так і не збіраліся? Вядома ж, такога не забываецца. Нават стражы, якія ахоўвалі караля і практычна з месца не зварухнуліся, ігралі свае ролі выдатна. Адзін з вартаўнікоў-ахоўнікаў стаяў сабе за каралём і жаваў гуму-жвачку. Ну, проста неверагоднае і фантастычнае. Малайчыны!

Кленіцкія вучні паказалі першыя крокі самастойнасці Віці, лежання і абібока, за якога ўсё рабіла мама або сястра, і раптам яму захацелася хоць раз паказаць сябе самастойным. Ды што ж, першыя крокі заўсёды трудныя, і Віця гэтае адчуў на сваёй скуры.

Вучні з Гайнаўкі і Малінік паказалі адну і тую ж п'есу — „Свавольныя зайчаняты". І нічога, што пастаноўка з Малін-

(Працяг на стар. 10)

БЕЛАРУСКАЯ НАРОДНАЯ КАЗКА

## Каза-манюка

Жыў дзед ды баба з дачкою. І была ў іх каза.

Пагнала дачка пасвіць казу. Цэлы дзень пасвіла па бары, па дубраўцы, па траўцы, па мураўцы. Увечары прыганяе дахаты. Дзед пытаецца ў казы:

— Каза мая, козачка, дзе была? Што ты ела, што піла?

Каза кажа:

— Нідзе не была. Нічога не ела, нічога не піла. Толькі як бегла цераз масток, ухапіла кляновы лісток, а як бегла ля крынічкі, ухапіла кропельку вадзічкі...

Насварыўся дзед на дачку, што дрэнна казу пасвіла, і назаўтра выправіў бабу.

Цэлы дзень пасвіла баба казу па бары, па дубраўцы, па траўцы, па мураўцы. Увечары прыганяе дахаты.

Дзед зноў пытаецца ў казы:

— Каза мая, козачка, дзе была? Што ты ела, што піла?

Каза кажа:

— Нідзе не была. Нічога не ела, нічога не піла. Толькі як бегла цераз масток, ухапіла кляновы лісток, а як бегла ля крынічкі, ухапіла кропельку вадзічкі...

Дзед і на бабу насварыўся, што дрэнна казу пасвіла.

Надзеў тады дзед бабін каптан і хустку ды пагнаў сам пасвіць казу.

Цэлы дзень пасвіў па бары, па дубраўцы, па траўцы, па мураўцы.

Увечары вярнуўся дахаты, пераадзеўся ў сваё адзенне, сеў на прызбе і чакае казу з пашы.

Прыйшла каза на двор.

Дзед пытаецца:

— Каза мая, козачка, дзе была? Што ты ела, што піла?

Каза кажа:

— Нідзе не была. Нічога не ела, нічога не піла. Толькі як бегла цераз масток, ухапіла кляновы лісток, а як бегла ля крынічкі, ухапіла кропельку вадзічкі...

Узлаваўся дзед на казу-манюку, прывязаў яе за плот, а сам пайшоў касу вастрыць, казу-манюку рэзаць.

Дазналася аб гэтым каза, сарвалася з прывязі і пабегла ў лес. Знайшла ў лесе зайчыкаву хатку, залезла ў яе і жыве там, а зайчыка і на парог не пускае. Сеў зайчык пад елачкай і плача. Ідзе воўк:

— Чаго, зайчык, плачаш? Чаго зажурыўся?

— Як жа мне не плакаць, як не журыцца. Была ў мяне хатка — новая, яловая. Прыйшоў

(Працяг на стар. 10)

# НІЎКА

## РАСТЛУМАЧАЛЬНЫ СЛОЎНІК „НІЎКІ“

**Абабак** — дзедка (муж бабкі).
**Абавязаны** — абсаджаны вязамі.
**Абадраны** — той, хто аб'еўся дранікаў.
**Абамшэлы** — заатакаваны мышамі.
**Абаранак** — сняданак у бары.
**Абарот** — пацалунак.
**Абаротнасць** — цалаванне.
**Абвінаваціць** — абліць віном.
**Абвінавачаны** — абліты віном.
**Абводка** — пасудзіна на гарэлку.
**Абвужаны** — аплецены вужамі.
**Абвязаны** — засаджаны вязамі.
**Абдзірка** — латка на дзірку.
**Абдыманне** — вэнджанне мяса, кілбас.
**Абед** — бедны, няшчасны чалавек.
**Абедзенны** — банкрут.
**Абеззямеліць** — кінуць вобзем.
**Аберагаць** — абыходзіць берагам.
**Аберацыя** — брыдкая слушнасць.
**Абібок** — баксёр.
**Абіўка** — гультайка.
**Абіўпчык** — гультай, лодар.
**Абколаты** — узяты ў кола.
**Абкурыцца** — завесці гадоўлю курэй.
**Аблазіць** — засадзіць лазой.
**Аблачэнне** — надвор'е з аблакамі.
**Аблізаны** — ажэнены з Лізай.
**Абляпіха** — назойлівая жанчына (жонка)
**Абмацаны** — той, хто аб'еўся мацы.
**Абміранне** — змаганне за мір.
**Абмовіцца** — вывучыць нейкую мову (напр. беларускую).
**Абмяты** — абкладзены мятай.

**„ядань“**

— Хто пазнаёміў цябе з тваёй будучай жонкай?
— Мы пазнаёміліся выпадкова. І таму не маю да нікога прэтэнзіі.

*

— Не разумею, як ты паспеў у адзін дзень нарабіць столькі глупстваў?
— Я ўстаў вельмі рана.



Паміраю з цікавасці пазнаёміцца з вамі, так мала я пра вас чула.







## АФАРЫЗМЫ

Той, хто вельмі любіць грамадства як такое, найчасцей няздольны палюбіць канкрэтнага чалавека.

*

Не прызнаваць ніякіх абавязкаў і адначасна патрабаваць для сябе ўсіх правоў — гэта, вядома, свінства, але якое ж спакуслівае!

*

Не здзіўляцца нічаму — гэта сімптом неразумнасці, а не мудрасці.

*

Чаму людзі патрапяць паміраць лепш, чым жыць? Таму, што жыць трэба доўта, а памерці можна хутка.

*

Здаровы розум зберажэ цябе ад подласці, але не выратуе ад роспачы.

**Фёдар Дастаеўскі**

## ЯК Я ПІСАЎ ФЕЛЬЕТОН

Сустракае неяк мяне рэдактар нашай шматтыражкі і кажа:

— Добры дзень, браце! Ці не напішаш ты фельетон? Аб шкодзе алкаголю. Патрэбная тэма. Дык выратуй, братка!

Я згадзіўся.

Тры дні сядзеў у бібліятэцы — штудзіраваў кнігі. Ад сусветнай гісторыі да медыцынскай энцыклапедыі. Потым некалькі дзён пісаў. Урэшце прачытаў фельетон сябру.

— Даражэнькі, — усклікнуў той. — Гэта ж геніяльна. Такое можа нарадзіцца раз у сто гадоў. Ты — вундэркінд! Нечага талент хаваць. Крычы „эўрыка!“. І нясіся ў бліжэйшы рэстаран!

— Каб праверыць яго ўздзеянне на масавага чытача? — расчулена перапытаў я.

І ўявіў. Сядзіць ля стала тып з чырвоненькім носам, а я чытаю свой бязлітасны фельетон. І, нібы ў кіно, твар чалавека прыгажэе, святлее. У фінале наплывае ўсмешка. Звон шкла. Гэта разбіта паўнюткая бутэлька! Былы алкаголік грызе яблык. Цітры: „Вітаміны — кожнаму!“

— Ды што ты? — перапыніў мяне сябра. — Надрукуеш свой твор, тады хай чытаюць. А сёння мы павінны адзначыць твой поспех. Падымем келіх за новае імя ў літаратуры! І, канечне, за тое, каб самы заядлы п'яніца кінуў піць, — дадаў ён.

Ад гэтага я адмовіцца не змог і, паклаўшы рукапіс у кішэню, рушыў з сябрам да рэстарана.

Раніцой у мяне балела галава, але... у той дзень нам давалі прагрэсіўку.

— Хлопцы, — сказаў Мішка Дзяцел, — няўжо наш калектыў не можа хоць раз сабрацца разам? Скнар, вядома, сярод нас няма? Тады — па рублiку! Да сямі ячшэ аж дзве гадзіны.

А назаўтра мы адзначылі дзень машынабудаўніка, потым у шэфа нарадзілася дачка, потым да мяне прыехалі госці, потым я сам быў у гасцях, потым... „Пярцоўка“, „Зуброўка“, „Белавежская“, „Дубняк“, „Экстра“...

Сёння сустрэў рэдактара. Ён паабяцаў у наступным нумары даць фельетон. Пра мяне!

**Марат Баскін**

*(З кнігі „Ад варот паварот“)*

## СПЯВАЕМ БЕЛАРУСКІЯ ПЕСНІ

### ПАЧАРНЕЛА МАЁ СЭРЦА

(народная)

*Пачарнела маё сэрца*
*Горай чорнага пяра:*
*Ой, я не бачыла мілога*
*Ані сёння, ні ўчора.*

*Я не бачыла мілога*
*Ані сёння, ні ўчора.*
*Ой, я на ганачках стаяла,*
*Дождджык капаў на меня.*

*Я на ганачках стаяла,*
*Дожджык капаў на меня.*
*Ой, я сяброўкам гаварыла:*
*— Не кахайце так, як я.*

*Я сяброўкам гаварыла:*
*— Не кахайце так, як я,*
*Ой, вы ля хлопцаў не садзіцесь,*
*Хлопцаў бойцесь, як агня.*

*Пачарнела маё сэрца*
*Горай чорнага пяра:*
*Ой, я не бачыла мілога*
*Ані сёння, ні ўчора.*






*

— Нам забаронена курыць у канферэнцыйнай зале.
— І нічога дзіўнага. Вельмі нездарова курыць у памяшканні, дзе людзі спяць.

*

— Куды ідзеш?
— Нясу грошы ў банк.
— Што ты, ашалеў? У іх жа грошай столькі, што пазычаюць іх іншым.

*

— Ці дачка пазнаёміла цябе са сваім нарачоным?
— Яшчэ не, яна надта нясмелая! Пакуль што прыводзіць яго дадому толькі тады, калі ў ім нікога няма.

*

— Мая жонка, дружа, страшэнная кабета. Калі заззлуе, тады мяне лае і біць бярэцца.
— На многа горш, калі мая ў добрым гумары. Тады спявае!




**Калі бачыш памылкі толькі ў маладых, гэта знак, што становішся старым.**